*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 9 (1368) 28 ЛЮТАГА 2018 г.

# 11-я Агульнанацыянальная беларуская дыктоўка

## БЕЛАРУСКАЯ ДЫКТОЎКА Ў ФРУНЗЕНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ г. МЕНСКА



21 лютага ў бібліятэцы імя Францішка Багушэвіча ў Менску прайшла беларуская дыктоўка з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы. Дыктоўку правяла Фрунзенская арганізацыя ТБМ г. Менска. Вёў дыктоўку выкладчык, сябар Рады ТБМ - Алесь Чэчат. Апрача сяброў ТБМ, бралі ўдзел у ёй і навучэнцы лінгва-гуманітарнага каледжа. Дыктоўка прайшла ў святочнай атмасферы і засведчыла, што любоў да роднай мовы і сёння жыве ў сэрцах людзей.

***Павел Чайкоўскі.***
*Менск.*

## Дыктоўка ў бібліятэцы імя А. Міцкевіча

У бібліятэцы імя А. Міцкевіча ў Менску 21 лютага адбылося святочнае мерапрыемства, прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы. Наведвальнікі бібліятэкі напісалі дыктоўку па апавяданні Міколы Купавы "Партрэт Францішка Скарыны". Яе прадыктавала супрацоўніца бібліятэкі Ванда Браніславаўна.







*"Партрэт Скарыны унікальны паводле ўсіх патрабаванняў кампазіцыі і зместу, і ролі ў нашай гісторыі і культуры,* - гаворыцца ў тэксце.- *На партрэце Скарына максімальна набліжаны да гледача, паказаны як пісьменнік і перакладчык."*

Для гасцей імпрэзы выступілі з чытаннем вершаў паэткі Людміла Круглік і Святлана Раманава. Святочная сустрэча завершылася частаваннем пірагамі з гарбатай.

***Э. Оліна.***

ISSN 2073-7033


9 772073 703003 >

# 100 гадоў з дня нараджэння Алеся Бачылы



**Алесь БАЧЫЛА**, сапр. Аляксандр Мікалаевіч (2 сакавіка 1918, в. Лешніца, цяпер Пухавіцкі раён Менскай вобласці - 4 студзеня 1983) - беларускі паэт, драматург, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1967).

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Каралішчавіцкай і Сінілаўскай школах на Меншчыне. Завочна скончыў Менскі настаўніцкі інстытут (1939). Восенню 1939 г. прызваны ў Чырвоную Армію, служыў да 1945 г. Удзельнічаў у паходзе ў Іран, у баях на Крымскім, Паўночна-Каўказскім (Чарнаморская група войск), Варонежскім, 2-м Беларускім і 1-м Прыбалтыйскім франтах. Пасля вайны працаваў у "Настаўніцкай газеце", потым у газеце "Літаратура і мастацтва" - загадчыкам аддзела, адказным сакратаром (1946-1951), намеснікам галоўнага рэдактара (1952-57). У 1951-52 г. - уласны карэспандэнт "Литературной газеты", рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР. З 1952 года нам. галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва". У 1957-1972 г. - адказны сакратар часопіса "Полымя", у 1972-1978 - старшы рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Дэбютаваў у друку ў 1934 годзе. Аўтар зборнікаў паэзіі "Шляхі" (1947), "Зоры вясення" (1954), "Юнацтва" (1959), "Дарыце цюльпаны" (1966), "Тры багіні" (1973), "Белы бярэзнік" (1976), "Гараць лісты кляновыя" (1981) і інш., паэмы "Асенняя аповесць" (1965), "Паэмы тугі" (апубл. 1987) пра калектывізацыю, раскулачванне, адвучванне селяніна быць гаспадаром на зямлі.

Аўтар лібрэта опер "Яснае світанне" (1958, муз. А. Туранкова), "Калючая ружа" (1960), "Калі ападае лісце" (1968), "Зорка Венера" (1970) і аперэты "Паўлінка" (1973, усе на муз. Ю. Семяняні).

Аўтар кнігі пра М. Багдановіча "Дарогамі Максіма" (1971; 2-е выд., 1983). Пісаў сатырычныя творы (зборнік "Кавалер Мікіта", 1967) і творы для дзяцей (зб. "Мне купілі самакат", 1981).

Да 100-годдзя з дня нараджэння Алеся Бачылы "Белпошта" выпусціла мастацкую паштоўку.

***Вікіпедыя.***

# Лявону Баршчэўскаму - 60

**Лявон Пятровіч БАРШЧЭЎСКІ** (нар. 4 сакавіка 1958, Полацк) - беларускі філолаг, перакладчык, грамадскі дзеяч і палітык.

Скончыў з адзнакай Менскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў на спецыяльнасць нямецкая і англійская мовы. Працаваў выкладчыкам нямецкай і англійскай моваў у школе № 10 г. Полацка, потым у Наваполацкім політэхнічным інстытуце (цяпер Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт). Скончыў аспірантуру пры Менскім педінстытуце замежных моў (1987), атрымаў ступень кандыдата філалагічных навук (1989).

У 1990-1995 гадах Л. Баршчэўскі быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання, уваходзіў у склад парламенцкай апазіцыі БНФ. Працаваў у камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, а таксама ў камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічнай дзейнасці. Быў суаўтарам канцэпцый, прынятых у 1990-1992 гадах законаў "Аб грамадзянстве", "Аб адукацыі", "Аб рэферэндуме" і інш. У красавіку 1992 года на 9-й сесіі ад імя Апазіцыі БНФ прадставіў распрацаваны спецыялістамі праект Закона "Аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю", які быў адхілены большасцю Вярхоўнага Савета.

З 1995 года - намеснік старшыні Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", у 1996-1999 гадах - выконваў абавязкі старшыні партыі пасля эміграцыі Зянона Пазняка. Пасля расколу партыі ў 1999 г. стаў намеснікам старшыні Партыі БНФ Вінцука Вячоркі.

На 10 з'ездзе Партыі БНФ у снежні 2007 года абраны старшынём партыі. У верасні 2009 года сышоў з пасады старшыні, на якой яго, па выніках з'езду партыі, замяніў Аляксей Янукевіч. У 2011 годзе разам з групай паплечнікаў выйшаў з Партыі БНФ.

Шматгадовы намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя, які быў афіцыйна закрыты ўладамі ў 2003 годзе. Шматгадовы сябар рэспубліканскай Рады ТБМ.

Аўтар больш за 30 артыкулаў і навуковы кансультант 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі" (1996-2004), Рэдактар серыі "Еўра Граматыкі" (з 2008). Укладальнік 27-моўнага "Еўраслоўніка" (2008), "Польска-беларускага тэматычнага слоўніка для школьнікаў і студэнтаў" (2013) і шмат інш.

Лаўрэат прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-Цэнтра (1997).

***Вікіпедыя.***

# Сакральныя тэксты спрыяюць развіццю нацыянальнай мовы

21 лютага ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася навуковая канферэнцыя "Беларуская мова ў сферы sacrum: гісторыя і сучаснасць".



- Наша канферэнцыя адбываецца ў Міжнародны дзень роднай мовы, - адзначыў акадэмік НАН, доктар філалагічных навук, прафесар Аляксандр Лукашанец. Сам факт правядзення гэтага мерапрыемства ў Дзень беларускай мовы сведчыць пра тое, што мова займае важнае месца ў духоўнай сферы жыцця нашага грамадства. Гэта працуе на аўтарытэт канфесій, якія дзейнічаюць у краіне, і на прэстыж беларускай мовы. Чым больш будзе пашырацца ўжыванне нашай нацыянальнай мовы ў актуальных для развіцця грамадства сферах, тым больш прыязна да яе будуць ставіцца грамадзяне нашай краіны і вернікі розных канфесій. Сумесныя намаганні прадстаўнікоў канфесій дапамогуць нам зрабіць крокі па расшырэнні ўжывання мовы.

З прывітальным словам выступіла дэпутат Палаты Прадстаўнікоў, старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алена Анісім:

- Наша мова зазнала перыяды ўзлёту і занепаду, перыяды росквіту і дыскрымінацыі. Важна, каб яна прысутнічала ва ўсіх сферах жыцця, бо мова лучыць нашыя пакаленні, дае кожнаму чалавеку далучэнне да тых скарбаў, якія былі створаны цягам стагоддзяў. Канферэнцыя закранае далікатную тэму, якая датычыць асабістай прасторы кожнага чалавека. Хачу пажадаць, каб родная мова гучала штодня і была натхняючым мамантам, служыла апірышчам у жыцці і садзейнічала поспеху!

Дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Ігар Лявонавіч Капылоў адзначыў, што падобная канферэнцыя праходзіць упершыню ў інстытуце, яна сведчыць пра збліжэнне гуманітарнай навукі і веры, пра актыўнае ўзаемадзеянне святароў з акадэмічным асяродкам.

З дакладамі выступілі доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр Каваленя, доктар тэалогіі ксёндз канонік Ян Крэмез, пратаіерэй Сергій Гардун, доктар габілітаваны Эва Галахоўска з Польшчы, муфцій мусульман Алей Варановіч, магістр багаслоўя Аляксандр Багданенкаў, протапрэсвітар Яўген Усошын, доктар тэалогіі Марына Пашук і іншыя.



На канферэнцыі прагучала важная думка пра тое, што сакральны тэкст адыгрывае важную ролю ў развіцці нацыянальнай мовы. Перад даследчыкамі стаіць задача перакласці ўсю Біблію на сучасную беларускую мову, каб мець цэльны пераклад, які б можна было б параўнаць з рускім сінадальным выданнем Біблії.



На мерапрыемстве быў прадстаўлены Беларускі біблійны корпус http://biblija.bnkorpus.info/, які змяшчае 16 перакладаў Біблії на беларускую мову: Францішка Скарыны, Каталіцкага Касцёлу, Беларускага Экзархату Маскоўскага Патрыярхату, Л. Дзекуць - Малея, А. Луцкевіча, кс. В. Гадлеўскага, Л. Галяка, В. Тумаша, кс. Пётры Татарынава, Я. Станкевіча, кс. У. Чарняўскага, А. Клышкі, В. Сёмухі, М. Міцкевіча, А. Бокуна.

Падчас дыскусіі абмяркоўвалася варыянтнае ўжыванне тэрмінаў і паняццяў адпаведна ўсходняй і заходняй традыцыі: *храм - святыня, хрышчэнне - хрост, распяцце - ўкрыжаванне, благадаць - ласка, ангел - анёл, Прычасце - Святая Камунія, Узнясенне - Унебаўшэсце Пана.*

Дыскутуючы пра ўжыванне словаў " Пан", " Госпад" і " Гасподзь" у адносінах да Бога, даследчыкі засведчылі пра існаванне ў іншых мовах адпаведных словаў "Lord" (англ.) і Senor Jezu (гішп.) і інш.

Айцец Андрэй Крот з Гародні распавёў пра выдавецкую дзейнасць грэка-каталікоў, пачынаючы з 90-ых гадоў мінулага стагоддзя, узгадаў пра вялікія намаганні ў гэтай галіне айца Аляксандра Надсана і дзейнасць выдавецтваў " Божым шляхам", " Унія" і іншых.

У другой палове дня адбыўся круглы стол "Мова і рэлігія: беларускі кантэкст". У секцыйных паседжаннях абмяркоўваліся тэмы лексікалогіі і стылістыкі сучаснай беларускай мовы ў сферы sacrum, а таксама праблемы адлюстравання сакральнага ў творах літаратуры, рэлігійны кампанент у мове мастацкіх твораў.

***Эла Дзвінская,***
фота аўтара:
1. Акадэмік А.А. Лукашанец адкрывае канферэнцыю;
2. Алена Анісім і іншыя ўдзельнікі мерапрыемства;
3. Ксёндз Ян Крэмез.

# Прэзентацыя "Псалтыра" ў Дзень роднай мовы

21 лютага ў Міжнародны Дзень роднай мовы ў межах канферэнцыі "Беларуская мова ў сферы sacrum: гісторыя і сучаснасць" адбылася прэзентацыя новага выдання "Псалтыра", ажыццёўленага Каталіцкім касцёлам у год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.

Аўтары-ўкладальнікі кнігі доктар філалагічных навук, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ, прафесар Мікалай Прыгодзіч і Валянціна Карлаўна Раманцэвіч распавялі пра гэтае ўнікальнае выданне. Акрамя псалмоў цара Давіда, кніга ўключае кароткі тлумачальны даведнік, утрымлівае арыгінальныя прадмовы Францішка Скарыны. Выданне ў прыгожай паліграфіі са зручным буйным шрыфтам аздоблена каляровымі ілюстрацыямі з выявамі Святой Зямлі.

- "Псалтыр" на сучаснай беларускай мове асвячае яе, спрыяе павышэнню прэстыжу беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадства і яе захаванню. Нацыянальная мова павінна аб'ядноўваць людзей і нацыю, і Слова Божае таксама павінна аб'ядноўваць, - адзначыў на прэзентацыі кнігі акадэмік НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар Аляксандр Лукашанец.- "На Беларусі Бог жыве,- казаў Уладзімір Караткевіч".

- Даследчыцкая праца пачалася з канферэнцыі 13 снежня 2008 года "Святое Евангелле і праблемы перакладу на беларускую мову", - распавёў доктар філалагічных навук, прафесар Міхаіл Прыгодзіч. Упершыню такая праблема была пастаўлена на навуковым узроўні. Штуршком паслужыла кніга Уладзіслава Завальнюка "Родная мова ў духоўным жыцці беларуса" (2008). З таго часу двойчы быў выдадзены "Слоўнік сучаснай беларускай мовы" з уключэннем рэлігійнай лексікі. У 2013 годзе быў выдадзены "Энцыклапедычны слоўнік рэлігійнай лексікі беларускай мовы". Падрыхтаваны рукапіс хрысціянскага міжканфесійнага даведніка.

- Паколькі Францішак Скарына пачаў кнігадрукаванне з "Псалтыра", ксёндз Уладзіслаў паставіў нам задачу: перакласці кнігу на сучасную беларускую мову, - успамінае выдатнік народнай асветы, выкладчыца са шматгадовым стажам Валянціна Карлаўна Раманцэвіч.

Яна здзейсніла пілігрымку на Святую Зямлю, праанalізавала шматлікія крыніцы, выслухала пытанні людзей, не аднойчы прачытала




Евангелле. Яна звярнула ўвагу на тое, што ў Новым Запавеце да Хрыста хворыя звярталіся з заклікамі: "Ісусе, сыне Давідаў, вылечы нас!", нагадваючы пра яго паходжанне з роду цара Давіда. Рыхтуючы кнігу да выдання, ксёндз Уладзіслаў Завальнюк выдатна распрацаваў тэматыку псалмоў.

Гэта была першая маштабная навуковая канферэнцыя ў найноўшы час, якая праходзіла ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі з удзелам даследчыкаў - філолагаў, гісторыкаў, перакладчыкаў і прадстаўнікоў розных рэлігійных канфесій.

***Эла Дзвінская,***
фота аўтара:
1. Псалтыр 2017 года выдання на беларускай мове.

# У Менску прэзентавалі апошні том "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы"

У менскім Музеі Якуба Коласа прэзентавалі апошні 37-ы том "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы". Гаворыць дырэктар Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі Іван Капылоў:

- Мова старабеларуская абслугоўвала магутную еўрапейскую дзяржаву пад назвай Вялікае Княства Літоўскае. З гэтай мовай лічыліся і нашы суседзі: у Канцылярыі Маскоўскай дзяржавы і ў канцылярыі Каралеўства Польскага таксама паважалі, мусілі паважаць, старабеларускую мову і афіцыйна дзелавыя пісьмы, накіраваныя ў ВКЛ, таксама пісаць на гэтай мове. Гэта слоўнік - тая платформа, якая дазваляе нам усвядоміць сябе старажытнаеўрапейскім народам, са старажытнай, самабытнай, еўрапейскай мовай, якую мы павінны перадаваць з пакалення ў пакаленне.




Задача стварыць "Гістарычны слоўнік беларускай мовы" была пастаўлена ў Інбелкульце яшчэ ў 1920-я гады. Больш за 90 гадоў спатрэбілася, каб справа дайшла да завяршэння.






***Максім Каўняровіч,***
*Беларускае Радыё Рацыя,*
*Менск.*





На Наваградчыне дыктоўку напісалі каля 2800 чалавек

# "Блізкі свет" Раісы Крывальцэвіч, або Мова і памяць

Міжнародны дзень роднай мовы - свята, якое з 1999 года адзначаецца штогод 21 лютага з мэтай заахвочвання моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі і спрыяе ўсведамленню моўных і культурных традыцый, якія грунтуюцца на ўзаемаразуменні, цярпімасці і дыялогу. Дата 21 лютагабыла абраная таму, што ў гэты дзень у 1952 годзе загінулі пяць студэнтаў, што змагаліся за прызнанне бенгальскай мовы ў якасці дзяржаўнай ва Усходнім Пакістане, які ў 1971 годзе стаў асобнай дзяржавай Бангладэш. Свята было заснавана арганізацыяй ЮНЭСКА.

21 лютага ў бібліятэку была запрошана аўтар, празаік і эсэіст Раіса Крывальцэвіч, з якой бібліятэку звязваюць добрыя сяброўскія адносіны. Гэта ўжо другая сустрэча з пісьменніцай. Нарадзілася Раіса Яўгенаўна ў вёсцы Слухавічы на Наваградчыне. Скончыла Менскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Друкавалася ў часопісах "Верасень" і "Дзеяслоў". Аўтарка кнігі абразкоў "Дарога" (2014).

У верасні 2017 года ў бібліятэцы прайшла творчая сустрэча з ёй. Раіса Яўгенаўна - сапраўдная беларуска, якая не толькі прыгожа размаўляе на мілагучнай беларускай мове, але яшчэ і ведае яе дасканала, робіць усё магчымае, каб куфэркі багацця роднай мовы не пусцелі.

На жаль, у Беларусі людзі мала гавораць на роднай мове. У Міжнародны дзень роднай мовы супрацоўнікі раённай бібліятэкі змаглі праверыць свае веды, напісаўшы дыктоўку. Тэкст чытала Раіса Яўгенаўна з кнігі Вінцука Адважнага, беларускага пісьменніка, паэта, публіцыста з серыі "Беларускі кнігазбор". Сёння не так часта даводзіцца трымаць у руках ручку дарosламу чалавеку. Калі школьныя гады далёка, пачуцці зусім іншыя. Таму аднесліся да гэтага супрацоўнікі вельмі сур'ёзна. Складаныя сказы, знакі прыпынку - усё гэта давялося ўспомніць.



Потым паступова непасрэдна перайшлі да другой часткі сустрэчы.

Аўтар падзялілася сваімі ўспамінамі, перажываннямі, аналізуючы ўласную кнігу "Блізкі свет. Хатні слоўнік-успамін". Гэта своеасаблівая кніга сямейнай памяці, у якой праз пададеныя словы, афарызмы, прыказкі, прымаўкі, якія ўжываліся ў сям'і, аўтар хацела пакінуць удзячны ўспамін пра сваіх бацькоў, паказаць незвычайную адметнасць і сакавітасць беларускай мовы, нагадаць "родныя слухавіцкія слоўцы". Першае жаданне запісваць узнікла яшчэ ў студэнцкія гады. Па асноўнай сваёй прафесіі Раіса Яўгенаўна, дарэчы, настаўнік нямецкай мовы.

Яна расказвала пра тое, што калі чытала бацькам запісанае, занатоўвала каментары бацькі. З часам зразумела каштоўнасць і неабходнасць прамоўленага. Аўтар адзначыла спецыфічныя моўныя асаблівасці Наваградчыны, пра якія яна прачытала ўпершыню ў кнізе "Памяць. Навагрудскі раён" у артыкуле Булыкі "Мова Навагрудчыны". Ішла таксама размова пра жывучасць народнага слова. Асобна прыводзіліся прыклады этымалагізмаў, рабіўся аналіз асобных слоў.

Зараз Раіса Яўгенаўна працуе над кнігай, прысвечанай мастаку і земляку Віктару Залаціліну, які таксама збірае тапонімы сваёй мясцовасці. Моўнае багацце свайго краю і яго гісторыя таксама будуць занатаваны ў новай кнізе. Словы, па думцы аўтара, як "зачэпка да вяртання ў мінулае", да жывога народнага маўлення беларусаў.



*Іна Анатольеўна Шаўчук,*
*загадчык аддзела*
*абслугоўвання і інфармацыі*
*ДУК "Навагрудская*
*раённая бібліятэка".*

А асноўны ўклад у дыктоўку на Наваградчыне ўнеслі ўстановы адукацыі. Сёлета Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі 18 школ Наваградскага раёна або 2780 вучняў. Дыктоўку пісалі ў 12 населеных пунктах. Пра гэта старшыні Наваградскага ТБМ Святлане Абдулаевай паведамілі ў аддзеле адукацыі раёна.

***Наш кар.***

# Дыктоўка ў Валожыне



21 лютага прайшоў 1-шы этап напісання Агульнанацыянальнай дыктоўкі ў горадзе Валожыне, ініцыятарам правядзення якой стала Валожынская суполка ТБМ.

Напісанне дыктоўкі сябрамі суполкі стала ўжо традыцыйным. Сёлета ж упершыню да гэтай светлай акцыі далучыліся і іншыя валожынцы. Аўдыторыю склалі 17 чалавек, на жаль, па сур'ёзных прычынах адсутнічалі 5 сяброў, але тых, хто прыйшоў, яднала роднае слова і дух беларускасці…

Быў узяты адзін з прапанаваных тэкстаў ТБМ - "На пачатку было слова" Анатоля Бутэвіча. Дыктоўку пісалі ў раённай ЦРБ, чытала настаўніца беларускай мовы і літаратуры, старшыня Валожынскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны Людвіка Таўгень.

Найлепшыя вынікі паказалі Лізавета Пятроўская (сябра ТБМ, кіраўнік Заслужанага фальклорнага калектыва "Гасцінец"), якая з сынам Станіславам прыехала з Ракава; Марыя Трапашка (сябра ТБМ, аўтар 3-х зборнікаў рэлігійных і інш. песень) з Вішнева; Наталля Штэйнер (журналістка); Тамара Сухавецкая (працавала стыльрэдактарам у мясцовай газеце); Аксана Віршыч (псіхолаг СШ № 2 г. Валожына); Валянціна Краўневіч (журналіст раённай газеты "Працоўная слава").

Вырашылі наступны раз пісаць дыктоўку 25 сакавіка, спадзяёмся, большым складам сяброў.

***Наш кар.***
***Фота Валянціны Краўневіч.***

*Павел Сцяцко*

# Прозвішчы Беларусі

## *Новая серыя*

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

1288. **Хвашчынскі** (Мікалай) - вытвор з фармантам *-ынскі (-інскі)* ад тапоніма *Хвашчы* з семантыкай 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Хвашч-ынскі.* ФП: *хвошч* ('шматгадовая споравая расліна сямейства хвашчовых з зялёнымі, звычайна галінастымі сцёбламі і лускаватым лісцем') - *Хвошч* (мянушка) - *Хвошч* (прозвішча) - *Хвашчы* ('мясцовасць з прозвішчамі *Хвошч*') - *Хвашчынскі.*

1289. **Хвашчэўская** (Алеся) - вывор з фармантам прэстыжнасці (шляхетнасці) *-эўскі* ад прозвішча *Хвошч*. Гл. **Хвашчынскі**.

1290. **Хвяжэнка** (Вольга) - другасная форма, першасная *Хвяджэнка* - вытвор з фармантам *-энка* ад антрапоніма *Хведзя* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Хвядж(дз/дж)-энка.* ФП: *Фёдар* і *Хведар* (імя <грэч. 'Божа дар') - *Хведзя* і *Хведжа* (рэг.) - разм. форма - *Хвяджэнка - Хвяжэнка.*

1291. **Хількевіч** (Уладзімір) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хільк-евіч.* ФП: *хілы* ('слабы, хваравіты') - *хілько* ('пра хілага чалавека') - *Хілько* (мянушка, потым прозвішча) - *Хількевіч.*

1292. **Хілько** (Хрысціна) - семантычны вытвор ад апелятыва *хілько* 'хілы, хваравіты чалавек'.

1293. **Хільмановіч** (Уладзімір) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Хільман* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хільман-овіч.* ФП: *Філімон* (імя <грэч. з семантыкай 'любіць') - *Хілімон, Хільмон* (народныя варыянты) - *Хільман* (празванне, потым прозвішча) - *Хільмановіч.*

1294. **Хільчэўскі** (Аляксандр) - вытвор з фармантам *-эўскі* ад тапоніма *Хількі* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Хільч/эч -эўскі.* ФП: *хілы* ('слабы, хваравіты') - *Хілы* (мянушка, потым прозвіша) - *Хілько* ('пра хілага, хваравітага чалавека' - (мянушка)) - *Хілько* (прозвішча) - *Хількі* (тапонім) - *Хільчэўскі.*

1295. **Хінская** (Тацціяна) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Хіны* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Хінская.*

1296. **Хітрык** (Ганна) - вытвор з суфіксам *-ык* ад антрапоніма *Хітры* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хітр-ык.* ФП: *хітры* ('выкрутлівы, які дзейнічае скрытна, не яўна, на зман') - *Хітры* (мянушка, потым прозвішча) - *Хітрык.* Параўн. **Худык, Хворык.**

1297. **Хлусевіч** (Тамара) - форма бацькаймення з фармантам *-евіч* ад антрапоніма *Хлус* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Хлус-евіч.* ФП: *хлус* ('той, хто хлусіць; манюка') - *Хлус* (мянушка) - *Хлус* (прозвішча) - *Хлусевіч.*

1298. **Ходзька** (Дамінік) - семантычны вытвор ад апелятыва *ходзька* 'той, хто ходзіць' (пра малых дзяцей, якія пачынаюць хадзіць).

1299. **Храмогін** (Андрэй) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Храмога* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Храмогін.* ФП: *храмы* (рус.) 'кульгавы, крывы')) - *храмога* ('пра кульгавага, крывога чалавека', фармант *-ога*) - *Храмога* (мянушка, потым прозвішча) - *Храмогін.*

1300. **Храмчанкова** (Ніноль) - вытвор з фармантам *-ова* ад антрапоніма *Храмчанок* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Храмчанкова.* ФП: *храмы* (рус.) - *хромка* ('храмы чалавек') - *Хромка* (мянушка, потым прозвішча) - *Хромчанка* ('нашчадак хромкі', фармант *-анка*) - *Храмчанкова.*

1301. **Хромчанка** (Ігар) - вытвор з фармантам *-анка* ад антрапоніма *Хромка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хромч(к/ч)анка.* ФП: *храмы* (рус. хромой 'кульгавы, крыўю') - *Храмко* (мянушка потым прозвішча) - *Хромчанка* (рус. *Хромченко*).

1302. **Хрусталёў** (Барыс) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ёў* ад антрапоніма *Хрусталь* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хрусталёў.* ФП: *хрусталь* (рус. 'крышталь' (Даль)) - *Хрусталь* (мянушка, потым прозвішча) - *Хрусталёў.*

1303. **Хрушчоў** (Андрэй) - вытвор з прыналежным суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Хрушч* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хрушч-оў.* ФП: *хрушч* ('жук сямейства пласцініставусых; майскі жук') - *Хрушч* (мянушка, потым прозвішча) - *Хрушчоў.*

1304. **Хрысценка (** Канстанцін) - вытвор з фармантам *-енка* ад антрапоніма *Хрыста* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хрысц-енка.* ФП: *Хрыстафор* (імя, з мовы грэкаў 'які нарадзіў Хрыста') - *Хрыста* (гутар. форма) - *Хрыста* (мянушка, потым прозвішча) - *Хрысценка.* Або ад *Хрысця* (*Хрысціна*, імя, з мовы грэкаў 'хрысціянін'), з фармантам *-енка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Хрысц(я)енка.*

1305. **Хутарская** (Ларыса) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Хутар* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Хутар-ская.* ФП: *хутар* ('адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка') - *Хутар* (тапонім) - *Хутарская.* Або семантычны вытвор ад прыметніка *хутарскі* 'які адносіцца да хутара, звязаны з ім' - *Хутарскі (-ая).*

1306. **Цабкала** (Жанна) - другасная форма, першасная *Цапкала* - семантычны вытвор ад апелятыва *цапкала* 'той, хто хапае рукамі, 'цапае'. Форма з ***"б"*** дзеля адмежавання ад апелятыва.

1307. **Царлюкевіч** (Віталь) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Царлюк* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Царлюкевіч.*

1308. **Царун** (Павел) - семантычны вытвор ад апелятыва *царун* 'той, хто царуе (*цар-ун*), гаспадарыць, пануе ў чым-н.' (царун у гульні ў карты, футбол) (Слонімшчына).

1309. **Целеш** (Лявон) - семантычны вытвор ад апелятыва *целеш* 'той, хто апрацоўвае калоды' (Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі) або (рэг.) *целеш* 'калода, кругляк'.

1310. **Целешава** (Тацціяна) - вытвор з фармантам *-ава* ад антрапоніма *Целеш* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Целеш-ава.* ФП: *целеш* ('калода, кругляк' (Бялык.)) - *Целеш* (мянушка) - *Целеш* (прозвішча) - *Целешава.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

№ 9 (1368) 28 ЛЮТАГА 2018 г. Наша слова

# Жыві, родная мова!

*Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!*
*Ты крыўды, няпраўды змагло;*
*Хай гналі цябе, накладалі аковы,*
*Дый дарма: жывеш, як жыло!*

***Я. Купала.***

З нагоды Міжнароднага дня роднай мовы, які адзначаецца 21 лютага ў чытальнай зале ДУК "Карэліцкая раённая бібліятэка" сабраліся вучні мясцовых школ, актыўныя чытачы бібліятэкі, работнікі культуры. Ладзілася кніжная выстава "Гімн роднай мове", якая складаецца з раздзелаў: "Ад прадзедаў спакон вякоў…", "Развіццё беларускай мовы", "Нашы любімыя беларускія творы".








Адкрылася сустрэча відэаролікам пра Сінявокую Беларусь і гучаннем знаёмых радкоў "Мой родны кут, як ты мне мілы…".

Бібліятэкар Валянціна Кошур, ведучы гаворку пра шлях развіцця роднай мовы, заклікала яе вывучаць, пашыраць, распрацоўваць, бо матчына мова - найвялікшы скарб.









Пра прыгажосць роднай мовы, уклад беларускіх пісьменнікаў у яе развіццё, адносіны да народнага скарбу гаварыла ў сваёй прамове начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Іна Санчук.

- Калі мы будзем берагчы мову, то мы будзем берагчы спачыну, - сказала прамоўца.

Сябар Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь Святлана Кошур заклікала прысутных авалодваць роднай мовай. Па яе меркаванні, трэба пачынаць з самага маленства, а таксама саміх сябе. Прачытаўшы верш пра родную мову Л. Геніюш, запрасіла прысутных напісаць агульнанацыянальную дыктоўку.

- Акрамя таго, гэты тэкст павінен вам спадабацца і закрануць вас, - сказала Святлана Андрэеўна.

Урывак П. Сабіна "Плач вады" тычыўся мясцовых краявідаў, вазера Свіцязь і жвавенькай рачулкі Сваротва, якая адзіная выцякае з шыкоўнага возера. Сапраўды - родная мова чыстая, светлая, мілагучная, і трэба яе берагчы і шанаваць.

***Наталля Уладзіміраўна Казарэз,***
*метадыст ДУК*
*"Карэліцкая раённая бібліятэка".*

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў сакавіку

Адаміна Алена
Адамовіч Славамір Генрыхавіч
Азарчык Раман Уладзіміравіч
Анацка Ганна
Андрэас Анатоль
Аніскевіч Алег
Аноп Віталь Аляксандравіч
Антонава Алена Аляксееўна
Арочка Ларыса Іванаўна
Асіпчук Аксана Мікалаеўна
Аскерка Анатоль
Астаповіч Галіна Канстанцін.
Астроўскі Аляксандр Алякс.
Аўсяннікава Тамара Алякс.
Баброўская Людміла
Бажыцка Алег Аляксандравіч
Бандарэнка Юлія Дзмітрыеўна
Бараноўскі Сяргей
Бародзіч Ганна Стафанаўна
Баршчэўскі Лявон Пятровіч
Барэль Таццяна Уладзіміраўна
Баўсюк Мікола
Бахцізіна Кацярына Георгіеўна
Белякоў Аляксандр
Бермант Раіса Барысаўна
Богдан Вадзім
Бойка Сяргей Васільевіч
Бохан Уладзіслаў Сяргеевіч
Бубула Вольга
Бугай Казімір Іосіфавіч
Бугук Яўгенія Якаўлеўна
Бука Таццяна Леанідаўна
Булак Аляксандр
Бураўкін Арсень Аляксеевіч
Бутылін Міхась Уладзіміравіч
Бяляева Наталля Уладзімір.
Васільчанка Мікола Рыгоравіч
Вашкевіч Андрэй Фрыдрых.
Вашкевіч Ігар Пятровіч
Віцько Дзмітры Вячаслававіч
Войшніс Фаіна Сцяпанаўна
Вулхайзер Курт Фрэдрык
Вянгура Ніна Фёдараўна
Вярбіцкая Ядвіга Станіслав.
Вячорка Францішак Валянцін.
Галец Вольга Георгіеўна
Гапеенка Анатоль Мікалаевіч
Гарасюк Аляксандр
Гардзей Н. М.
Гаркавая Людміла
Гарэлікава Ларыса Эдуардаўна
Герасімовіч Валянцін Іванавіч
Гіль Лілея Эдмундаўна
Гоўша Сяргей Канстанцінавіч
Грамыка Валянціна Васільеўна
Грыгаровіч Радаслаў Іванавіч
Грыгор'еў Аляксандр Віктар.
Грынь Наталля Станіславаўна
Грышкевіч Юры Генадзевіч
Гук Ганна Іванаўна
Гуркоў Канстанцін Уладзімір.
Дабратвор Ілля Мікалаевіч
Давыдоўская Алена Сяргееўна
Дайлідка Юры
Далудзенка Анастасія Дзмітр.
Дамасевіч Віталь Уладзімірав.
Дапкюнас Жанна Казіміраўна
Дарашкоў Сяргей
Дзіцэвіч Рычард Мікалаевіч
Дзмітруковіч Вольга Фёдар.
Другакова Марына Мікал.
Дрык Людміла
Дубіцкі Уладзімір Пятровіч
Дыдышка Ніна
Дэц Алена Георгіеўна
Жылко Антон Мікалаевіч
Забалотная Леакадзія Віктар.
Завацкі Яўген Ігаравіч
Занкевіч Сяргей Міхайлавіч
Згірскі Міхаіл Францавіч
Здзітавец Алена Уладзіміраўна
Зінавенка Сяргей Леанідавіч
Зянькевіч Барыс Барысавіч
Іванова Бярнарда Пятроўна
Ішчанка Галіна Мікалаеўна
Кавальчук Дамініка Сяргееўна
Кавальчук Дзмітры Леанідавіч
Кадушка Вера Уладзіміраўна
Казлова Аляксандра Віктар.
Каліновік Вольга Фёдараўна
Калоша Аляксандр Аляксанд.
Кандраццева Зінаіда Міхайл.
Капковіч Вольга
Карабач Марыя
Каралёва Таццяна Іванаўна
Карась Ганна Аляксандраўна
Караткевіч Таццяна Мікал.
Карлінскі Віктар Адамавіч
Карпіцкі Максім Юр'евіч
Кашкур Іосіф Станіслававіч
Кечанкоў Мікалай Мікалаевіч
Кірылаў Герман Іларыёнавіч
Кіслая Вольга Юр'еўна
Клімавец Яўгенія Антонаўна
Клімус Андрэй
Клінава Дарыя
Коваль Ірына Віктараўна
Козел Ларыса Міхайлаўна
Конічава Галіна
Корань Вольга
Кохан Павел Сяргеевіч
Крапоціна Вольга Іванаўна
Красніцкі Віктар Яўгенавіч
Крол Цімур Аляксандравіч
Крук Ларыса Васільеўна
Крукоўскі Уладзімір
Крывенькая Марына Расцісл.
Кулеўскі Уладзіслаў Ігаравіч
Кулішча Эдуард Францавіч
Кунцэвіч Уладзімір Генадз.
Курбацкі Аляксандр Міхайл.
Кухаронак Валянціна Іванаўна
Кухто Васіль Іванавіч
Лазіцкі Дзяніс Андрэевіч
Лазоўскі Алег Алегавіч
Лапенка Аляксей Купрыянавіч
Лапіцкі Аляксей Іванавіч
Латушка Ірына
Латыш Аліна Лявонаўна
Леўшукоў Андрэй
Ліннік Мікалай Міхайлавіч
Лісоўскі Тарас Станіслававіч
Ліцьвінчук Наталля
Лойка Ганна Станіславаўна
Лукашэвіч Аляксей Пятровіч
Луханіна Алена Альбінаўна
Ляўковіч Міхась Васільевіч
Мазанік Аляксандр Віктаравіч
Макар Юры Уладзіміравіч
Макарэвіч Сяргей Іосіфавіч
Малахава Людміла Віктараўна
Малашанка Зміцер Васільевіч
Малашчанка Ядвіга Алегаўна
Малышчыц Мікалай Васіл.
Мамонька Алена
Мамчыц Эдуард Іосіфавіч
Марачкін Аляксей Антонавіч
Марус Алена
Маханько Алена Валер'еўна
Махвіц Аляксей Яўгенавіч
Мацвееў Ігар Аляксеевіч
Мельнікава Анжэла
Мельнікава Святлана
Мерцалава Надзея Фёдараўна
Мінава Вера
Місевіч Мар'ян
Міхалькевіч Віталь Генрых.
Міхалькевіч Віталь Паўлавіч
Міхалькевіч Уладзіслаў Генр.
Міхнавец Дзіна Мікалаеўна
Мухіна Надзея Аляксандраўна
Мяцюн Таццяна Мар'янаўна
Насовіч Эдуард Піліпавіч
Несмяянава Людміла Данілаўна
Носава Галіна
Падгайскі Мікалай Вячаслав.
Пазднякова Анастасія Дзмітр.
Пазняк Марыя
Пальчэўскі Юры Леанідавіч
Паляк Надзея Васільеўна
Панкевіч Аляксандр
Папковіч Уладзімір Антонавіч
Паўлавец Зміцер Змітравіч
Паўлюковіч Ніна
Пералайка Мікалай Уладзімір.
Перападзя Ліна Фёдараўна
Праконіна Вера Уладзіміраўна
Прыбыш Ірына Мікалаеўна
Прыгодзіч Фёдар Уладзімір.
Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч
Пятручык Уладзіслаў Анатол.
Рабчынская Лідзія Аляксееўна
Раманоўская Ганна Леанідаўна
Раманоўская Яніна
Рамашэўская Людміла Алякс.
Родзік Анатоль Леанідавіч
Рулевіч Алена Валер'янаўна
Русан Сяргей Іванавіч
Руткоўская Антаніна Фадз.
Рыбакова Ірына Алегаўна
Рыбакоў Яўген Юр'евіч
Рыбачонак Аляксандр Міхайл.
Рымша Ангеліна Алегаўна
Сабалеўская Вольга Аляксан.
Савіцкі Максім
Савіцкі Павел Уладзіміравіч
Садоўская Алена Станіслав.
Садоўскі Раман
Салдаценка Ігар Пятровіч
Санько Зміцер Хведаравіч
Саракавік Анатоль Вячаслав.
Сарнацкі Аляксандр Балясл.
Саўчанка Марыя Уладзімір.
Севасцьянава Ганна Сяргееўна
Сідаровіч Ала Рамуальдаўна
Сідарэвіч Святлана Рыгораўна
Сідарэнка Сяргей Уладзімір.
Сінькевіч Сяргей Алегавіч
Сіняўская Вера Васільеўна
Смаль Вячаслаў Мікалаевіч
Смірнова Рэната Юр'еўна
Старавойт Наталля Юр'еўна
Стаўбун Ірына Іванаўна
Стахоўскі Станіслаў Аляксан.
Стаціўка Мікалай
Страха Соф'я Валянцінаўна
Стэпусь Васіль
Суравіцкі Віталь Анатольевіч
Сурскі Ягор Дзмітрыевіч
Сухарава Любоў Васільеўна
Сушко Вера Іванаўна
Сцямпкоўскі Сяргей
Сцяцко Павел Уладзіміравіч
Сянкевіч Васіль Іванавіч
Табушава Ірма Алегаўна
Тамулёнак Мікалай Іванавіч
Тацянкоў Генадзь Максімавіч
Толсцік Вольга
Точка Людміла Браніславаўна
Трайнель Віктар
Траццякова Алена Уладзімір.
Трацяк Іван Іванавіч
Трашчанка Уладзімір Яўхім.
Турок Марыя Аляксандраўна
Уазіз Амін
Узлоўскі Валянцін
Федаровіч Валерый Васільевіч
Філіпаў Мікалай Альбертавіч
Фірысюк Таццяна Мікалаеўна
Хабян Вольга
Хамрэнка Ірына Алегаўна
Харашылава Тамара Пятроўна
Хацятоўскі Аляксей Аляксан.
Храпавіцкі Васіль Сяргеевіч
Цвяткова (Русак) Надзея Іван.
Цыркуноў Аляксандр Іванавіч
Чакур Анатоль Мміхайлавіч
Чаляпін Аляксей
Чапля Аляксей Генрыкавіч
Чарняўская Святлана
Чашчына Наталля Мікалаеўна
Чэчат Сяргей Аляксандравіч
Шавель Яўген Іванавіч
Шагулін Алег Іванавіч
Шадыра Вадзім Іосіфавіч
Шарах Генадзь Мікалаевіч
Шаргаева Святлана Міхайл.
Шарэйка Вольга
Шахоўская Святлана Уладзім.
Шыпіла Вераніка Уладзімір.
Шышкіна Лена Сяргееўна
Шышук Андрэй Іванавіч
Шэметава Алеся Аляксандр.
Якубоўская Таццяна
Якубук Наталля Раманаўна
Яноўская Марыя
Януковіч Вікторыя Эдуард.
Янчанка Алена Рыгораўна
Яўдошына Ларыса Іванаўна
Яцына Яна Мікалаеўна





# 11-я Агульнанацыянальная беларуская дыктоўка ў сумежжы

## Другую ўстаўную грамату БНР пісалі пад дыктоўку ў Варшаве



Беларусы Варшавы пазнаёміліся са зместам гістарычнага дакумента падчас Агульнанацыянальнай дыктоўкі, якая ўжо дзясяты раз праходзіць тут у Міжнародны дзень роднай мовы. Працягвае паэтка і тэлевядоўца Валярына Кустава:

- Мы пісалі Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку. Гэта традыцыя, якая доўжыцца ўжо 10 гадоў. Уласна кажучы, сёння быў юбілейны год. І акурат першая дыктоўка пісалася да 90-годдзя БНР. Такім чынам, гэтай дыктоўкай мы пачынаем марафон святкавання 100-годдзя БНР.



Сувязь паміж развіццём нацыянальнай культуры і дабрабытам насельніцтва тлумачыць прафесар гісторыі, выкладчык Варшаўскага ўніверсітэта Вячаслаў Швед:

- Уся гісторыя розных краінаў, не толькі нашай, паказвае, што чым больш народ валодае мовай, карыстаецца ёй, тым больш ён узрастае ў сваёй культуры агульнай, а таксама эканамічнай, што звязана, канешне, і з побытам.

Тэкстам дыктоўкі была Другая ўстаўная грамата Выканаўчага камітэта Усебеларускага з’езда, прынятая ў Менску 9-га сакавіка 1918 года. Менавіта гэты дакумент абвесціў нараджэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

***Эдуард Жолуд,***
*Беларускае Радыё Рацыя, Варшава. Фота аўтара.*

## У Варшаўскім універсітэце таксама была дыктоўка пра БНР



Дзень роднай мовы адзначылі дыктоўкай пра стагоддзе БНР. Мерапрыемства арганізавала кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Тэкст чытала супрацоўнік навучальнай установы Вольга Трацяк:

- У гэтым годзе прыпадае 100 гадоў з дня абвяшчэння БНР. Упершыню кафедра беларусістыкі менавіта з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы зарганізавала беларускую дыктоўку. Спадзяёмся, што будзе працяг.



У дыктоўцы ўзяло ўдзел каля трыццаці чалавек. Адметна, што сярод прысутных былі не толькі беларусы, але таксама палякі, украінцы, госці з Чэхіі і Расеі.

***Адам Завальня,***
*Беларускае Радыё Рацыя, Варшава. Фота аўтара.*

## У трох літоўскіх гарадах правялі беларускія дыктоўкі да Дня роднай мовы



Дыктоўкі, прымеркаваныя да Міжнароднага дня роднай мовы прайшлі ў Вільні, Клайпедзе і Вісагінасе. Агулам у імпрэзах прынялі ўдзел амаль 60 чалавек, паведамілі Свабодзе ў Амбасадзе Беларусі ў Літве.

У Вільні мерапрыемства арганізавала амбасада Беларусі ў Літве. Як паведаміў Радыё Свабода прадстаўнік амбасады такая дыктоўка праводзілася імі ўпершыню за доўгі час. Клас беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны ў Вільні сабраў 30 чалавек. Сярод іх былі дыпламаты, прадстаўнікі дыяспары, вучні гімназіі і іх бацькі. Тэкст дыктоўкі быў прысвечаны біяграфіі драматурга Вінцэнта Дунін-Марцінкевіча, 210-годдзе якога адзначаецца сёлета.

- Тое, што сюды прыехалі людзі нават з іншых гарадоў Літвы, паказвае шчырую любоў беларусаў да матчынай мовы, - адзначыла дарадца-пасланнік амбасады Людміла Таратыновіч.

Прадстаўнікі дыяспары самарганізаваліся ў Вісагінасе, дзе напісаць дыктоўку прыйшло 15 чалавек. У Клайпедзе святочныя мерапрыемствы былі арганізаваныя ганаровым консулам Беларусі і старышынём беларускай суполкі "Крыніца" Мікалаем Логвінавым. Дыктоўку пісалі 12 чалавек, пасля святкаванне працягнулася імпрэзай прысвечанай кнігадрукару Францішку Скарыну.

***Радыё Свабода.***

На здымку: Беларуская дыктоўка ў Вільні.

## Вучні Бельскай "Тройкі" напісалі беларускую дыктоўку



Комплекс школаў імя Ярaслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім адсвяткаваў Міжнародны дзень роднай мовы. Дзякуючы Дарафею Фёніку, вучні таксама мелі магчымасць больш даведацца пра патрона сваёй пляцоўкі.

- Менавіта Яраслаў Кастыцэвіч сфармаваў бельскую "Тройку", кажа настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч. - Ён па-сапраўднаму адраджаў беларускае слова. Ён ведаў і разумеў асяроддзе і тое, што вёскі - гэта беларуская мова. І ён прыкладаў намаганні для развіцця беларускага школьніцтва. І таму, па-першае, я вырашыла падкрэсліць заслугі Яраслава Кастыцэвіча. А па-другое, вырашыла зрабіць дыктоўку.



Гэта была першая агульнашкольная дыктоўка, прысвечаная Міжнароднаму дню роднай мовы, якая прайшла ў Комплексе школаў з дадатковай беларускай мовай навучання імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.

***Уля Шубзда,***
*Беларускае Радыё Рацыя, Бельск-Падляшскі. Фота аўтара.*

# З УСІМ БЕЛАРУСКІМ СВЕТАМ









Святочны настрой, адухоўленыя твары, шчырыя віншаванні, далікатныя кветкі, задушэўныя прамовы, хвалюючыя ўспаміны… і засяроджанасць асноўнай дзеі - Нясвіжчына піша разам з усім беларускім светам. Галоўная пляцоўка - раённая бібліятэка імя Паўлюка Пранузы. Утульная зала запоўнена аж на 105 адсоткаў. Сярод удзельнікаў грамадзянскага чыну настаўнікі і ўрачы, прадаўцы і літаратары, журналісты і прадпрымальнікі

Для дыктоўкі-2018, другой на Нясвіжчыне, былі падрыхтаваны тры тэсты. "Дзеля карысці сэрцаў" - з Аляксандра Ельскага. Гэта крыху скарочаны ўступ да артыкула "Нясвіж Радзівілаў чвэрць стагоддзя назад і сёння" з мудрымі павучаннямі ў самых дробных дэталях "спасцігаць усё тое, што завецца бацькоўскім, уласным". "Не новы абразок" - другі тэкст, паводле Уладзіслава Сыракомлі. Шчымлівы ўспамін з дзяцінства, з нядзельнай дарогі паміж Свержанем і Нясвіжам. Трэці - удзячныя словы Уладзіміра Ліпскага пра Паўлюка Пранузу, 100-гадовы юбілей якога адзначаецца сёлета.

Выбралі першы: для арганізацыі, што ўзнаўляе сваю дзейнасць, даўнія (1907 г.) словы А. Ельскага гучаць як праграмны маніфест. Гонар прадыктаваць іх выпаў выкладчыцы роднай мовы і літаратуры Нясвіжскай гімназіі, дзейнаму педагогу з вопытам і поспехам у працы Наталлі Швайко (акурат на той час і "акенца" было сярод школьных заняткаў).

Пісалі з асалодай. Тым больш, што для кожнага былі падрыхтаваны адмыслова аформленыя дызайнерскія лісты з густоўнай абрэвіятурай АНД (Агульнанацыянальная дыктоўка) ды іншымі пазначэннямі, не лішнімі для мясцовага ТБМ-аўскага летапісу.

Настраёвай беларускамоўнай хваляй для ўдзельнікаў дыктоўкі сталіся песні: першая ў выкананні кіраўнікоў фальклорнага калектыву "Згода" Іны Філіпавай і Леаніда Шышко. Другую, вельмі ж даўнюю, бабуліну, падаравала ўдзельнікам кіраўнік Новасвержанскай суполкі ТБМ Валянціна Іванаўна Холадава. Галоўны музычны камертон сустрэчы ў Дзень роднай мовы - вечныя "Зорачкі" Сяргея Новіка-Пеюна. Мяркуем: ці не быць гэтай песні заўсёднай спадарожніцай, гукавым поклічам нясвіжскіх дыктовак?!



Свята не адпускала: хто цытаваў словы Адама Міцкевіча пра "самую гарманічную і з усіх славянскіх моў найменш змененую", хто прыгадваў жыццёвыя гісторыі-кампліменты за мову. Ад аматараў прыгожага слоўка (былі і такія) прагучала нямала ўдалых выслоўяў і афарызмаў. Адно з іх - ад Валера Дранчука: "*Агульнанацыянальная дыктоўка - гэта не праверка на ПРАВАпіс, а наша самаправерка на ПРАВА жыць з роднай мовай і карыстацца ёю штодня.*"

***Наталля Плакса.***

**На здымках:** 1. Агульны план; 2. Дыктуе Наталля Швайко; 3. Валянціна Холадава: песня ад бабулі з цікавай і драматычнай гісторыяй; 4. Ветэран педагагічнай працы, настаўніца роднай мовы Чеслава Суднік сярод удзельнікаў дыктоўкі Ларысы Ратомскай і Алега Гунька; 5. Пішацца дыктоўка.

# Напісалі дыктоўку і дакрануліся да кніжнай спадчыны Скарыны



Да Міжнароднага дня роднай мовы публічнымі бібліятэкамі Лідчыны быў прымеркаваны шэраг мерапрыемстваў для іх наведвальнікаў (у першую чаргу для дзяцей і моладзі), якія праходзілі з панядзелка па пятніцу. Гэта былі кніжныя выставы беларускамоўных выданняў, літаратурныя ўрокі, гадзіны роднай мовы, конкурсы і інш. Галоўнымі ў шэрагу гэтых мерапрыемстваў сталі агульная дыктоўка і адкрыццё выставы "Кніжная спадчына Францыска Скарыны", якія прайшлі ў чытальнай зале раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы непасрэдна ў Міжнародны дзень роднай мовы.



Праверыць сваю пісьменнасць і напісаць дыктоўку на беларускай мове ў той дзень меў магчымасць любы наведвальнік бібліятэкі. Тэкстам, выбраным для дыктоўкі, быў урывак з твора Фёдара Янкоўскага "У кнігарні". Дыктавала тэкст намеснік дырэктара раённай бібліятэкі Алена Быстрыцкая.




Дарэчы, як адзначыла Алена Адамаўна пасля праверкі напісанай удзельнікамі дыктоўкі (а ахвотных прыняць у ёй удзел было нямала), тэкст (хоць і не з лёгкіх) быў напісаны даволі граматна, толькі ў асобных выпадках сустракаліся пунктуацыйныя памылкі.

Адразу пасля напісання дыктоўкі ў той жа чытальнай зале адбылася прэзентацыя кніжнай выставы "Кніжная спадчына Францыска Скарыны", якую правяла галоўны бібліёграф бібліятэкі Галіна Курбыка. Выстава ўяўляе сабой поўны збор кніг, надрукаваных беларускім першадрукаром і асветнікам. Шматтомнае факсімільнае выданне складаецца з 20 тамоў, якія ўяўляюць сабой поўны збор 25 кніг, надрукаваных Скарынам у Празе ў 1517-1519 гадах і ў Вільні ў 1522-1525 гадах. Згаданае шматтомнае выданне Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы атрымала ў канцы мінулага года ад Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Наведвальнікі выставы атрымалі ўнікальную магчымасць паглядзець усе дваццаць кніг.

***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***

# Міжнародны дзень роднай мовы ў доме паэта Валянціна Таўлая

Міжнародны дзень роднай мовы не абмінуў і літаратурны аддзел Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Бо менавіта тут, як заўважана, пастаянна гучыць беларускае слова, тут пануе атмасфера беларускасці.

З самага рання сюды завіталі на экскурсію дзеткі з дзіцячага садка № 24, затым - студэнты педагагічнага корпуса Лідскага каледжа. З вуснаў малодшых і старэйшых наведвальнікаў гучала толькі беларуская мова. Ім цікава было паслухаць пра творчасць паэта Валянціна Таўлая, лідскіх майстроў мастацкага слова. Уся гэтая інфармацыя для іх стане карыснай у далейшай вучобе.



Ужо другі год літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", якое тут размяшчаецца, вырашыла чарговае пасяджэнне прысвяціць роднай мове. Сабраліся майстры прыгожага слова, настаўнікі, а таксама супрацоўнікі гістарычна-мастацкага музея. Ужо стала традыцыяй, калі з 2008 года Таварыства беларускай мовы пачало праводзіць у гэты дзень агульнабеларускія дыктоўкі паводле беларускамоўных твораў. Не абышлі яе і ў доме паэта В. Таўлая. На гэты раз дыктоўка была аб'яўлена пад 11 нумарам. Кіраўнік літаб’яднання "Суквецце", супрацоўнік музея Алесь Хітрун зачытаў урывак з твора беларускага пісьменніка Анатоля Бутэвіча "На пачатку было слова". Пасля яго напісання прайшла праверка, у выніку чаго былі падведзены вынікі. І так, І месца атрымала супрацоўнік музея Святлана Мартыненка (між іншым, і ў тым годзе яна таксама сябе актыўна праявіла ў майстэрскім напісанні дыктоўкі), ІІ месца падзялілі паміж настаўніцай рускай мовы і літаратуры СШ №11 Анашкевіч Наталляй і паэтамі Маркевіч Ірынай, Сліўко Ірэнай, а трэцяе адпаведна атрымалі ўсе астатнія ўдзельнікі - галоўны рэдактар газеты "Наша слова" Станіслаў Суднік, паэты Ірына Бараздзіна, Шот Людміла, Гуліцкі Дзмітрый, супрацоўнік музея Саладухін Іван.

*Арганізатар мерапрыемства* ***Алесь Хітрун.***




# Мова народа - яго святыня

Напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы ў Лідскім прафесіянальным ліцэі меліяратыўнага будаўніцтва адбылася сустрэча навучэнцаў і выкладчыкаў з паэтамі Лідчыны "Мова народа - яго святыня". У госці да нас завіталі Алесь Хітрун, Міхась Мельнік, бард Сяржук Чарняк. На сустрэчы прысутнічала 126 чалавек.





У час імпрэзы прагучала шмат вершаў беларускіх паэтаў пра беларускую мову з вуснаў навучэнцаў, якіх падрыхтавала Вашкевіч Баляслава Мар'янаўна - выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Вершы пра мову чыталі Войсяш Кацярына (125 гр.), Капковіч Марыя (124 гр.), Сідорчык Вікторыя (125 гр.), Кіндэр Валянціна (125 гр.), Бомцень Мікіта (124 гр.), Сёмуха Вікторыя (124 гр.), Васільева Марыя (125 гр.). Песні спявалі Зыкава Лізавета (124 гр.), Дрозд Ілона (124 гр.). Лепшымі чытальнікамі прызналі Войсяш Кацярыну і Капковіч Марыю.



Госці пазнаёмілі прысутных са сваёй творчасцю, прачыталі вершы, падзяліліся творчымі планамі. Бард Сяржук Чарняк так узрушыў і зацікавіў сваім выступленнем навучэнцаў і выкладчыкаў, што ўсе спявалі разам з ім.

І госці, і гаспадары атрымалі сапраўдную асалоду ад сустрэчы. Ва ўсіх з'явілася жаданне сустрэцца зноў.

А 21 лютага ў ліцэі ўпершыню адбылася Агульнанацыянальная дыктоўка. Пісалі дыктоўку 32 чалавекі. Тэкст Фёдара Янкоўскага "У кнігарні" чытала выкладчык беларускай мовы і літаратуры Баляслава Мар'янаўна Вашкевіч.

Лепшыя вынікі паказалі Тамашэўская Кацярына (124 гр.), Тункель Інэса (124 гр.), Пяцюн Анастасія (125 гр.), Кіндэр Валянціна (125 гр.), Заўгародняя Ангеліка.

***Таццяна Францаўна Урбановіч,***
*намеснік дырэктара па навучальна-метадычнай рабоце Лідскага прафесіянальнага ліцэя меліяратыўнага будаўніцтва.*

# Дзень роднай мовы ў Палацы культуры



У Міжнародны дзень роднай мовы ў Палацы культуры горада Ліды прайшлі мерапрыемствы, прымеркаваныя да гэтай даты. Па-першае, калектыў Палаца культуры актыўна падтрымаў акцыю "Размаўляй са мной па-беларуску!", і на працягу дня яго работнікі віталі калег і наведвальнікаў установы на беларускай мове. У фае ў той дзень дзейнічала анімацыйна-музычная пляцоўка "Ведамі багатыя", дзе для наведвальнікаў праводзіліся гульні, у ходзе якіх правяралася веданне імі беларускай мовы, і традыцыйныя беларускія гульні, ахвотныя таксама маглі паслухаць жывую цымбальную музыку. У гарадской дзіцячай бібліятэцы, што месціцца ў памяшканні Палаца культуры, дзейнічала кніжная выстава твораў беларускамоўных пісьменнікаў.




А ўвечары ўсіх ахвотных запрасілі ў малую залу - на бард-сустрэчу "І песняй загучыць душа", асноўнай мэтай якой было адкрыццё цудоўнага свету пявучай беларускай мовы для маладога пакалення. На працягу мерапрыемства ў зале гучалі цудоўныя вершы беларускіх паэтаў, творы таленавітых маладых выканаўцаў аўтарскай песні, песні з рэпертуару вядомых усяму свету "Песняроў" і папулярных беларускіх вакальных груп. На малой сцэне выступалі народны ансамбль "Вербніца" і таленавітыя навучэнцы Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа, а таксама Гарадзенскага каледжа мастацтваў. Акрамя таго, у мерапрыемстве прынялі ўдзел салісты эстраднай студыі "Акцэнт", удзельнікі народнага тэатра гульні "100 сяброў", народнага ансамбля скрыпачоў "Славяначка" і рок-гурта "Прэмія" Палаца культуры горада Ліды.



У рамках бард-сустрэчы таксама прайшла творчая прэзентацыя карціны лідскага мастака Уладзіміра Мельнікава "Малюся я небу…", прысвечаная заснавальніку і мастацкаму кіраўніку вакальна-інструментальнага ансамбля "Песняры" Уладзіміру Мулявіну.

***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***

# Дыктоўка ў Central Coffee, г. Ліда





21 лютага пісалі дыктоўку ў лідскай кавярні Central Coffee (Цэнтральная Кавярня), вул. Савецкая (Віленская) - 19. Тэкст "3-ай Устаўной граматы Рады БНР" чытаў сябар Лідскай гарадской рады ТБМ, акцёр Лідскага народнага тэатра Алег Лазоўскі. У дыктоўцы ўзялі ўдзел сем чалавек: бармэн рабіў бясплатную каву, адзін чытаў, а пяцёх пісалі.

Не проста засадзіць за дыктоўку людзей, якія на хвілінку забеглі выпіць па кубачку кавы, але хлопцы справіліся.

Гаспадару кавярні Кірылу Нежывому за месца для дыктоўкі ўручылі каляндар для яго кавярні, астатнім падарылі часопісы і буклеты ТБМ, а таксама зладзілі невялікі канцэрт. Лідскі бард Сяргей Чарняк спяваў песні на вершы вядомых беларускіх аўтараў, а вядоўца дыктоўкі Алег Лазоўскі прачытаў верш С. Судніка "Балада пра беларускую школу". Ва ўсіх настрой быў святочны і ўсім удзельнікам кава была бясплатная!

***Наш кар.***

# Зміцер Вайцюшкевіч даў канцэрт на малой радзіме

21 лютага пасля некалькіх гадоў перапынку ў Бярозаўцы адбыўся канцэрт Змітра Вайцюшкевіча. Для прыхільнікаў яго творчасці выступ у мясцовым Палацы культуры быў доўгачаканым яшчэ і таму, што сам артыст родам з Бярозаўкі. Канцэрт на сваёй малой радзіме Зміцер Вайцюшкевіч прысвяціў 25-годдзю выступу на сцэне, а таксама Дню роднай мовы, які адзначаўся акурат у гэты дзень. Музыка адзначыў, што вельмі важна выступаць беларускім артыстам не толькі на вялікіх пляцоўках, але і ў тых мясцінах, адкуль яны родам:




- Памятаюць мяне малога. Я вельмі рады сустрэчы. І я вельмі рады, што прыйшлі людзі. Была тая атмасфера, якую артыст вельмі любіць. Не толькі я, а кожны. Таму я вельмі ўдзячны сваім родным бярозаўскім людзям. Будзем яшчэ спрабаваць трошкі нешта рабіць тут. І на Лідчыне, і на Гарадзеншчыне, і па ўсёй Беларусі. Таму што ўсё ж такі беларускія артысты акрамя Варшаваў і Тарантаў павінны выступаць яшчэ і на Радзіме.

Пасля Бярозаўкі Зміцер Вайцюшкевіч плануе вясною зладзіць яшчэ некалькі сваіх выступаў у Віцебску, Барысаве, Менску, Лідзе, Гародні і іншых беларускіх гарадах, а таксама 25 сакавіка ў Варшаве.

***Андрэй Панямонаў,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*

## У Лідзе адбыўся канцэрт заслужанага аматарскага калектыва Рэспублікі Беларусь ВІА "Шкляры"

Канцэрт заслужанага аматарскага калектыва Рэспублікі Беларусь ВІА "Шкляры" з г. Бярозаўкі Лідскага раёна адбыўся ўвечар у сераду, 21 лютага, на вялікай сцэне Палаца культуры і сабраў не толькі аматараў музыкі, прыхільнікаў творчасці артыстаў, але і чальцоў Рэспубліканскай экспертнай камісіі. У іх ліку - кансультант кіравання культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Іван Галабурда, кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры музычна-педагагічнай адукацыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, мастацкі кіраўнік ансамбля народнай песні, музыкі і танца "Валошкі" Аляксандр Кавалёў, лаўрэат прэміі адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, саліст вакальнага праекту "Нонсэнс" Аляксандр Кавалёў, іншыя ганаровыя госці.





20 снежня 2007 года рашэннем калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за ўнёсак у развіццё нацыянальнай культуры народнаму вакальна-інструментальнаму ансамблю "Шкляры" было прысвоена званне "Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь". За гэтыя гады адбылася вялікая колькасць выступаў, пляцоўкамі для якіх станавіліся канцэртныя залы Беларусі і іншых краін. Цяперашняя ж праграма стала для артыстаў асабліва значнай: яны пацвярджалі сваё ганаровае званне.

Са сцэны гучалі лепшыя словы пра каханне, вясну і музыку - песні, якія даўно сталі хітамі. У іх ліку - "Ой, Князёўна", "Добрыя вечар, дзяўчыначка", "Мелодыя", і вядома, "Віват, Нёман" (адмыслова напісаная для ансамбля кампазітарам Алегам Елісеенкавым і якая стала гімнам хвалебнай працы працоўных шклозавода "Нёман"). Бурныя апладысменты гучалі для самай чароўнай ўдзельніцы калектыва - Вольгі Трафілавай. Фіналістка нацыянальных тэлевізійных праектаў, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў прадставіла сваю песню "Промень майго жыцця".

- Амаль пяцьдзесят гадоў "Шкляры" дораць нам сваю творчасць, - заўважыла жыхарка нашага горада Алена Смольская. - Поспехаў таленавітаму калектыву і ў далейшым!

Канцэрт скончыўся бурнымі авацыямі.

***Вольга Мацеша,***
*г. Ліда.*

## Спадчына Францішка Скарыны ў Рызе

У Рызе адбылася беларуская вечарына, падчас якой прадстаўнікі беларускіх грамадскіх арганізацый, установу культуры і навукі Латвіі, а таксама Пасольства Рэспублікі Беларусь і госці з Беларусі абмеркавалі дасягненні і перспектывы супрацоўніцтва. У межах сустрэчы адбылася прэзентацыя вынікаў рэалізацыі міжнароднага навуковага і выдавецкага праекту па факсімільным узнаўленні кніжнай спадчыны Францішка Скарыны. Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша перадаў поўны камплект факсімільнага выдання ў дар Акадэмічнай бібліятэцы Латвійскага ўніверсітэта.

Мерапрыемствы прайшлі на базе самай старажытнай бібліятэкі Латвіі - Акадэмічнай бібліятэкі Латвійскага ўніверсітэта, якая была заснавана яшчэ ў 1524 годзе і зберагае ўнікальныя кніжныя зборы, у тым ліку некаторыя знакавыя помнікі беларускага паходжання. У межах мерапрыемства дасягнуты дамоўленасці пра арганізацыю супольных сустрэч, прэзентацый, выстаў, навуковых форумаў і дыскусій па актуальных пытаннях кніжнай культуры Беларусі і Латвіі.



Міжнародны навуковы і выдавецкі праект па ўзнаўленні кніжнай спадчыны беларускага першадрукара, рэалізаваны Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Банкам БелВЭБ, завяршыўся сёлета і стаў кульмінацыяй юбілейных мерапрыемстваў у Беларусі і за мяжой. Гэты праект стаў каталізатарам цэлага шэрагу новых ініцыятыў, якія пройдуць у бліжэйшыя гады ў Беларусі і за мяжой і будуць скіраваны на папулярызацыю кніжнай спадчыны нашай краіны.

На восень 2018 г. запланавана правядзенне Дзён беларускай культуры ў Латвіі, якія пройдуць па розных гарадах і мястэчках у розных рэгіёнах Латвіі. У Латвіі пражывае выключна вялікая беларуская дыяспара, якая традыцыйна прымае актыўны ўдзел у гэтых святочных мерапрыемствах.

***Эла Дзвінская.***

**На здымку:** А.А. Суша і супрацоўніца бібліятэкі Латвійскага ўніверсітэта.

## Летуценнасць і вялікія здзяйсненні

У цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася вечарына памяці выдатнага літаратара, народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка НАН Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара,заслужанага дзеяча навукі БССР, лаўрэата дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Івана Якаўлевіча Навуменкі.

Мерапрыемства адбылося 15 лютага 2018 года і працягвалася 3 гадзіны. Адбылася прэзентацыя 10-томнага збору твораў пісьменніка, а таксама выхад у свет кнігі «Летуценнасць і вялікія здзяйсненні» (укладальнік Лаўшук Сцяпан Сцяпанавіч). Гэта ўспаміны больш за 50 аўтараў пра класіка! Усіх прысутных прывітаў дырэктар ўстановы, вядомы гісторык Аляксандр Іванавіч Груша. У зале прысутнічала больш за 100 чалавек, сярод якіх многа знакамітых навукоўцаў. Гэта Аляксандр Лакота, Аляксандр Каваленя, Іван Ліштван, Пётр Лысенка, Іван Саверчанка, Ігар Шаладонаў, Іван Чарота, Кастусь Цвірка, Уладзімір Чарота, Ганна Запартыка, Алесь Лапата-Загорскі, Аляксандр Лукашанец і іншыя асобы. Уступнае слова ад выдавецтва «Беларуская навука» браў кіраўнік ус-тановы Станіслаў Нічыпаро-віч.

Наклад навукова-папулярнага выдання 152 асобнікі. Кніга адрасаваная шырокаму колу чытачоў,усім хто цікавіцца гісторыяй беларускай навукі, культуры і літаратуры.

Трэба адзначыць, што перад прысутнымі выступалі славутыя беларускія паэты: Раіса Баравікова, Віктар Шніп, Анатоль Вярцінскі, Аксана Спрынчан...

Было цікава таксама паслухаць крытычныя заўвагі Валерыі Іванаўны Навуменкі да прэзентаванай кнігі. Адбылася дыскусія!

Кнігу я набыў за 9 рублёў і ўважліва прачытаў. Асабіста мне спадабалася тая частка ўспамінаў, якую напісаў славуты прафесар Дзмітрый Бугаёў (1929-2017 гг.) і якая мае назву «Шырыня натуры, багацце здзяйсненняў», а таксама старонка Віктара Карамазава пад назвай «Ад роднай хаты»...

Кніга багата аздоблена выдатнымі фотаздымкамі! Я спадзяюся, што яна будзе перавыдадзена. Калі я завітваю на Кальварыю, заўсёды заходжу да месца пахавання Івана Якаўлевіча.




Сёння мы будзем больш ведаць пра ягоную асобу, бо з'явілася такая цікавая кніга. Раю набыць яе нашым чытачам.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры, журналіст-фрылансер.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:*** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/ http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/ http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 26.02.2018 г. у 17.00. Замова № 513.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1,62 руб., 3 мес.- 4,86 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.